// Голас Радзімы

21 СТУДЗЕНЯ 1999 ГОДА

220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44. Цана 17 000 рублёў.

№ 2—3 (2612—2613)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі. Выдаецца з 1955 г.

***Вось і адышоў у гісторыю 1998 год. Няпростым ён быў для нашай краіны. Няўстойлівая эканоміка, дажджлівае лета са смерчамі і ўраганамі, надзвычайна моцныя маразы ў пачатку зімы і фінансавы крызіс у Расіі, які балюча адгукнуўся ў нас. Але людзі жывуць, працуюць, улюбляюцца і, пераадольваючы цяжкасці, з аптымізмам глядзяць у будучыню. Дык чым запомніўся год мінулы грамадзянам Беларусі? З гэтым пытаннем мы звярнуліся да некаторых з іх.***

# МІНУЛЫ ГОД У ЖЫЦЦІ БЕЛАРУСІ І ЯЕ АСОБНЫХ ГРАМАДЗЯН

● **Валянцін ТАЛКАЧОЎ, інжынер, майстар спорту па турызму.**

Найбольш знамянальнай падзеяй для мяне ў мінулым годзе стала пакарэнне найвышэйшай кропкі Заходняй Еўропы — гары Манблан, якая знаходзіцца ў Францыі. Яе вышыня 4 807 метраў над узроўнем мора. Да таго ж я быў самы старэйшы з трыццаці чалавек, якія штурмавалі вяршыню: мне хутка споўніцца 59 гадоў. Немалаважнай падзеяй для сябе лічу і тое, што выйшла мая кніга "Світанні ў дарозе", якая прысвечана трыццацігоддзю турысцкага клуба Мінскага падшыпнікавага завода. У ёй я расказаў аб сваіх сябрах і калегах, такіх жа, як я, аматарах падарожжаў. І яшчэ адна падзея: я стаў саіскальнікам па тэме "Здаровы лад жыцця" ў Акадэміі фізічнага выхавання.

● **Пётр і Рэгіна ДАБРЫЯН, інжынер і настаўніца.**

Мінулы год для нас знамянальны тым, што мы адзначылі тры юбілеі: сярэбранае вяселле (пражылі сумесна 25 гадоў), адсвяткавалі таксама 50-годдзе галавы сям'і, прытым без адзінай кроплі алкаголю, таму што летась споўнілася якраз 5 гадоў нашага цвярозага ладу жыцця. А гэта здароўе і добры настрой. Сёлета ў нас таксама з'явіўся ўнук. А яшчэ мы ўпершыню ў жыцці з'ездзілі на адпачынак у Балгарыю, а потым наведалі яшчэ і Турцыю. Так што мінулы год быў цікавы, насычаны падзеямі.

● **Валянціна ПІТКЕВІЧ, медсястра.**

Я нарэшце атрымала магчымасць набудаваць уласную кватэру на льготны крэдыт, які дала дзяржава. З аднаго боку, гэта радасная падзея ў маім жыцці. А з другога — я так за доўгія гады прывыкла да інтэрната, да яго вялікай і шумнай сям'і, што ўжо неяк боязна мяняць лад жыцця.

● **Генадзь ГАРОХАЎ, прадпрымальнік.**

1998-мы год для мяне азнаменаваўся тым, што фірма, у якой я працаваў, скарацiла сваю вытворчасць і я вымушаны быў самастойна шукаць сабе месца пад сонейкам. Я яго знайшоў. А цяпер трэба працаваць многа і ўпарта, каб моцна стаць на ногі і дабіцца пастаўленай мэты.

● **Алена СЦЯПАНАВА, настаўніца.**

Летась я адкрыла для сябе новую краіну — Італію. Гэта натхніла мяне заняцца вывучэннем яе мовы і культуры. Раней мне пашанцавала наведаць Нямеччыну, пасля чаго я вывучыла мову гэтай краіны. Спадзяюся, што адкрыцці не скончыліся і жыццё яшчэ дасць магчымасць пазнаць шмат цікавага і карыснага.

● **Уладзімір КАЦАПАЎ, дырэктар паліграфічнага прадпрыемства.**

Год пачынаўся добра. Мы нарэшце атрымалі дазвол гарадскіх улад на ўзвядзенне ўласнага вытворчага корпуса. Але будаўнікі замарудзілі гэтую справу, і цяпер у сувязі з фінансавым крызісам у Расіі і рэзкім узлётам курса долара яна легла цяжкім грузам на нашы плечы. Агульнае неспрыяльнае становішча ў эканоміцы скарацiла заказы, рэзка ўзрасла арэндная плата. Так што клопатаў і праблем хапае. Але мы спадзяемся, што гэтыя цяжкасці часовыя і неўзабаве наступіць момант, калі мы зможам з палёгкай уздыхнуць.

● **Святлана ВІЛЬКІНА, супрацоўнік Беларускай політэхнічнай акадэміі.**

Нарэшце заваявала тытул чэмпіёнкі Еўропы. І цяпер валодаю ўсімі ганаровымі званнямі ў стылі шотакан каратэ-до ад чэмпіёнкі краіны да чэмпіёнкі свету. Наогул уся наша беларуская каманда выступіла вельмі добра на гэтым чэмпіянаце Еўропы, які праходзіў у Германіі. Мы заваявалі семнаццаць медалёў — 13 залатых, 2 сярэбраныя і 2 бронзавыя. Акрамя гэтага, упершыню ў гісторыі развіцця каратэ на Беларусі наша каманда стала ўладальніцай найвышэйшай узнагароды — Кубка нацый. Парадавала мяне на гэтым турніры і дачка Вольга, якая заняла чатыры першыя месцы. Так што гэты год для нашай сям'і быў шчаслівы ў спартыўным плане.

● **Марыя КАЛІСТРАТАВА, пенсіянерка.**

Прайшло два гады, як я ўпершыню адважылася нырнуць у зімовую палонку. У гэтым мне дапамаглі мае сябры з рэспубліканскай школы самааздараўлення "Аптымаліст". Ведучы здаровы лад жыцця, працуючы над сабою, я дабілася таго, што ў 76 гадоў пазбавілася шэрагу хвароб, якія дагэтуль вельмі мне дакучалі. Цяпер я адчуваю сябе здаровай, вясёлай. Стала спакойнай, ураўнаважанай, жыццярадаснай і з надзеяй гляджу ў будучыню. І гэта прытым, што за плячыма ў мяне вайна з першага яе дня, хірургічная аперацыя па выдаленні шчытападобнай залозы, смерць мужа.

● **Аксана ГАБЯН, метадыст кафедры тэалогіі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта.**

Месяц назад я выйшла замуж за чалавека, якога моцна і доўга кахала. Шчаслівага для мяне моманту чакала некалькі гадоў, і вось лёс мне яго падарыў. Падзея гэта значна змяніла маё жыццё. Калі раней я жыла толькі працай, то цяпер маё жыццё напоўнілася іншым сэнсам, расквітнела новымі фарбамі.

**Распытваў Аляксандр ДЫНІКАЎ.**

ДЫНАСТЫЯ





Гаворацъ, у Нарвегіі амаль усе спяваюць — музыкальны слых у іх нібыта ідэальны. А вось у нас у рэспубліцы намячаецца іншае: малююць усё больш калектывамі. Па пацвярджэнні недалёка хадзіць — у гомельскай школе № 19 адбылася выстава карцін выкладчыцы жывапісу Наталлі Палуніной і яе сыноў — васьмікласніка Антона і трэцякласніка Цімафея.

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.*

КОНКУРС «БЕЛАРУСЬ У МАІМ СЭРЦЫ»

У Пасольства Рэспублікі Беларусь у Чэшскай Рэспубліцы рэгулярна прыходзіць газета "Голас Радзімы", з якой мы атрымліваем многа разнастайнай інфармацыі аб культурным жыцці нашай дзяржавы.

У нумары ад 10 снежня 1998 года (№ 49) былі размешчаны фатаграфіі вядомага беларускага фотамайстра Сяргея БРУШКО, якія дазваляюць убачыць жыццё людзей Беларусі.

Просім Вас аказаць садзейнічанне ў правядзенні фотавыставы Сяргея Брушко ў Чэхіі. Са свайго боку, Пасольства гатова аказаць усялякае садзейнічанне.

З павагай

**Л. АСТАПОВІЧ, другі сакратар.**

Дызайн назвы газеты — Карыны ХАРАНЕКА.

## Тыдзень. Падзеі. Фотафакты.

# ПРЫСУДЖАНЫ ПРЭМІІ ЗА 1998 год

### ПА ПРАДСТАЎЛЕННІ МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ ПРЫСУДЖАНЫ ПРЭМІІ "ЗА ДУХОЎНАЕ АДРАДЖЭННЕ"

**ЖДАНУ Яўгену Іванавічу** — галоўнаму мастаку Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Рэспублікі Беларусь, заслужанаму дзеячу культуры Рэспублікі Беларусь;

**КАЗІНЦУ Міхаілу Антонавічу** — рэктару Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, галоўнаму дырыжору Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча Беларускай дзяржаўнай філармоніі, народнаму артысту Беларусі;

**ШАМКО Юрыю Мікалаевічу** — рэгенту Архіерэйскага хору Мінскага Свята-Духава кафедральнага сабора;

**ШАЎЦОВУ Георгію Васільевічу** — протаіерэю, настаяцелю Свята-Петрапаўлаўскай царквы г. Бяроза Брэсцкай вобласці;

**калектыву рэдакцыі газеты "Культура".**

* * *

### РАШЭННЕМ САВЕТА ФОНДУ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ПАДТРЫМЦЫ КУЛЬТУРЫ І МАСТАЦТВА ПРЫСУДЖАНЫ ПРЭМІІ Ў ГАЛІНЕ КУЛЬТУРЫ І МАСТАЦТВА Ў НАСТУПНЫХ НАМІНАЦЫЯХ:

*музычнае мастацтва:*

**ЛАМАНОВІЧ Ніна Іосіфаўна**, галоўны хормайстар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Рэспублікі Беларусь, — за харавы канцэрт, канцэртнае выкананне оперы "Барыс Гадуноў" і харавой часткі спектакляў VIII фестывалю "Classic Openiar" у г. Салатурн (Швейцарыя) у 1998 годзе;

*тэатральнае мастацтва:*

**БАРКОЎСКІ Віталій Міхайлавіч**, галоўны рэжысёр Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, лаўрэат міжнародных тэатральных фестываляў, — за пастаноўку ў 1998 годзе спектакля "Таму, што люблю" па п'есе "Дзень карабля" А. Паповай і спектакля "Пісьменная" М. Чокэ;

*мастацкая літаратура:*

**БАРАВІКОВА Раіса Андрэеўна**, пісьменніца, — за кнігу "Сад на капялюшку каханай", апублікаваную ў 1998 годзе;

**ШАБАЛІН Аляксандр Андрэевіч**, галоўны рэдактар часопіса "Беларусь", — за серыю матэрыялаў аб Нарвегіі, апублікаваную ў 1998 годзе, і стварэнне таварыства "Беларусь — Нарвегія";

*кіно і тэлебачанне:*

**ШЭВЯЛЕВІЧ Віктар Васільевіч**, кінарэжысёр, — за дакументальныя фільмы "Шлях да святыні", "Благо твори", "Миссия Патриарха";

*архітэктура і рэстаўрацыя:*

**ШКОЛЬНІКАЎ Барыс Эмануілавіч**, архітэктар, дырэктар архітэктурнай майстэрні, — за праекціроўку і будаўніцтва ў 1998 годзе шэрагу пабудоў у г. Мінску;

*народная творчасць:*

**БЛУДАВЫ Яўген Яўгенавіч, Тамара Міхайлаўна, Аляксей Яўгенавіч, Уладзімір Яўгенавіч, Аляксандр Яўгенавіч**, народныя майстры, — за высокія творчыя дасягненні, актыўную даследчую і выхаваўчую дзейнасць, адраджэнне і развіццё традыцыйных беларускіх рамёстваў;

*выяўленчае мастацтва:*

**ГРАМЫКА Віктар Аляксандравіч**, прафесар, народны мастак Беларусі, — за цыкл твораў сацыяльнай тэматыкі, створаны ў 1998 годзе;

*харэаграфічнае мастацтва:*

**ДУДКЕВІЧ Валянцін Уладзіміравіч**, мастацкі кіраўнік — дырэктар Дзяржаўнага ансамбля танца Рэспублікі Беларусь, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, — за стварэнне ў канцэртным сезоне 1997/98 года канцэртнай праграмы "Карагод сяброў", канцэртных нумароў на музыку М. Агінскага "Паланез" і С. Хвашчынскага "Ефрасіння", а таксама за шматлікія дасягненні ў развіцці нацыянальнага харэаграфічнага мастацтва;

*эстрадна-цыркавое мастацтва:*

**ЯРМОЛЕНКА Анатоль Іванавіч**, мастацкі кіраўнік студыі "Сябры", народны артыст Беларусі, — за сольную праграму "囗ражывём", створаную ў 1998 годзе;

*крытыка і мастацтвазнаўства:*

**НАЗІНА Іна Дзмітрыеўна**, прафесар, загадчык кафедры беларускай музыкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, кандыдат мастацтвазнаўства, — за навуковую работу "Традыцыйная народна-інструментальная музыка Беларусі", выдадзеную ў 1998 годзе. За ўклад у выхаванне творчай моладзі;

**ДРОБЫШ Станіслаў Іосіфавіч**, загадчык кафедры беларускай народна-песеннай творчасці Беларускага універсітэта культуры, — за шматгадовую працу і значныя поспехі ў выхаванні творчай моладзі;

**МАНАКОВА Лідзія Аляксееўна**, рэжысёр, загадчык кафедры майстэрства акцёра і рэжысуры Беларускай акадэміі мастацтваў, — за шматгадовы ўклад у выхаванне творчай моладзі;

**СЕРГІЕНКА Таццяна Пятроўна**, дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, — за шматгадовы ўклад у выхаванне творчай моладзі. За ўклад у развіццё міжнародных культурных сувязей Рэспублікі Беларусь;

**ДАРАШКОЎ Міхаіл Рыгоравіч**, начальнік упраўлення культуры Магілёўскага аблвыканкома, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, — за шматгадовы ўклад у развіццё міжнародных культурных сувязей;

**ЕЛІЗАР'ЕЎ Валянцін Мікалаевіч**, мастацкі кіраўнік — дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Рэспублікі Беларусь, народны артыст СССР і Беларусі, — за значны ўклад у развіццё міжнародных культурных сувязей;

народны фальклорна-этнаграфічны ансамбль "Неруш" Беларускага універсітэта (кіраўнік — Гладкая В. Ф.) — за ўдзел у 1998 годзе ў фестывалі ў ЗША, у Днях беларускай культуры ў Краснадарскім краі Расійскай Федэрацыі, у Польшчы, у Італіі, супрацоўніцтва з калектывамі Даніі і Нарвегіі.

**За дасягненні ў эстэтычным і маральным выхаванні беларускага народа і прапаганду духоўных каштоўнасцей у галіне**

*музейнай справы:*

**калектыў Дома-музея А. Міцкевіча ў г. Навагрудку** — за ўдзел у Міжнародным свяце паэзіі, прысвечаным 200-годдзю з дня нараджэння А. Міцкевіча, метадычную дапамогу ў 1998 годзе настаўнікам школ;

**ІЛЬНІЦКІ Мікалай Мікалаевіч**, дырэктар Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, — за вялікі ўклад у развіццё музейнай справы;

*бібліятэчнай справы:*

**калектыў Магілёўскай аб'яднанай бібліятэкі імя У. І. Леніна** — за стварэнне ў 1998 годзе аўтаматызаваных інфармацыйных сетак "Абласная бібліятэка" і "Магілёўская вобласць";

**СЛЕСАРЭНКА Галіна Міхайлаўна**, дырэктар цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы г. Барысава Мінскай вобласці, — за значныя дасягненні ў галіне бібліятэчнай справы;

*мастацкай самадзейнасці:*

**ЖУКАВА Людміла Адамаўна**, выкладчык Наваполацкага музычнага вучылішча, кіраўнік Полацкага народнага камернага хору, — за паспяховы ўдзел у фестывалі "Беларусь — мая песня" і ІІ Міжнародным фестывалі харавой музыкі ў Турцыі;

**СУШКО Іосіф Фаміч**, мастацкі кіраўнік народнага ансамбля песні і танца "Спадчына" Маладзечанскага гарадскога Дома культуры Мінскай вобласці, — за значныя дасягненні ў галіне мастацкай самадзейнасці.



7 студзеня, у дзень Нараджэння Хрыстова, у мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы прайшло святочнае вячэрняе богаслужэнне, на якім прысутнічаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр ЛУКАШЭНКА і іншыя афіцыйныя асобы дзяржавы.

* * *



Напярэдадні Новага года аматары сімфанічнай музыкі змаглі паслухаць у канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь, які выканаў творы І. Брамса і Р. Вагнера. Дырыжыраваў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, галоўны дырыжор аркестра, прафесар Генадзь ПРАВАТОРАЎ.

Гэта было апошняе выступленне аркестра ў 1998 годзе перад беларускімі паклоннікамі сімфанічнай музыкі. Гастролі аркестра разам з маэстра Праватаровым маюць адбыцца ў васьмі гарадах Іспаніі, уключаючы Мадрыд і Барселону, дзе, акрамя твораў І. Брамса і Р. Вагнера прагучаць П. Чайкоўскі, І. Штраус і іншыя славутыя кампазітары.

* * *



Распрацоўкай прынцыпова новага прыбора для выпрабаванняў сілавых сістэм, якія праходзяць праверку ў канструктарскім бюро вытворчага аб'яднання "Гомсельмаш" пад кіраўніцтвам аўтара — доктара тэхнічных навук Леаніда Сасноўскага, зацікавіліся кітайскія вучоныя і прамыслоўцы. Група інжынераў і кіраўнікоў Уханьскага навукова-даследчага інстытута абароны матэрыялаў і Аньянскага завода шліфавальных матэрыялаў прыбыла ў Гомель з намерам зрабіць пасля выпрабаванняў заказ на выраб такіх прыбораў.

*На здымку: тлумачэнне дае Леанід САСНОЎСКІ.*

*Фотахроніка БелТА.*



# БЕЛАРУСКІ ДЗЕД МАРОЗ — У ЛІТВЕ

У Літоўскай Рэспубліцы, у Шальчынінкаі, ужо амаль 5 гадоў існуе Беларускі культурны цэнтр. За гэты час у ім з'явілася шмат прыгожых традыцый. На аснове цэнтра праведзены першае ўселітоўскае свята беларускай песні, спартыўныя спаборніцтвы памежных праваахоўных органаў Літвы і Беларусі. У прыватнасці, у песенным аглядзе-конкурсе ўдзельнічалі амаль 180 спевакоў. Пры цэнтры працуюць факультатывы беларускай мовы, выдаецца газета "Наша старонка", рыхтуецца адкрыццё помніка К. Каліноўскаму.

Але, бадай, самае прыгожае свята, якое на працягу пяці гадоў праводзіцца БКЦ, — навагодняя ёлка для хворых дзяцей, што вымушаны праводзіць святы ў шальчынінкайскім шпіталі.

Можна зразумець, колькі суму і горычы бывае на душы ў дзяцей і іх бацькоў. І вось пад Новы год з Беларускага культурнага цэнтра з'яўляецца Дзед Мароз, якога тут ужо называюць беларускім. Ён праводзіць з хворымі дзеткамі разнастайныя гульні, водзіць карагоды, раздае падарункі. Для кожнага Дзед Мароз знаходзіць цёплыя словы, кожнаму ўзнімае настрой.

Гэта свята арганізавала адна з 15 беларускіх суполак у Літве. Тым не менш, дабрачынную акцыю адразу заўважыў новы пасол Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы Уладзімір Гаркун. Нягледзячы на кароткі тэрмін знаходжання на дыпламатычнай пасадзе, ён знайшоў сродкі і магчымасць для падтрымкі добрай традыцыі.

Дарэчы, пасол У. Гаркун з першых дзён знаходжання ў Вільнюсе пачаў жыць не толькі дзяржаўнымі справамі, але і клапаціцца пра беларускія суполкі. Напярэдадні навагодніх святаў ён пабываў у абедзвюх беларускіх школах у Літве, меў шматлікія гутаркі з дзятвой.

**Пётр РЫНГЕВІЧ.**
г. Шальчынінкай.

**САЦЫЯЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ**

# ЖАНЧЫНЫ РАТУЮЦЬ СЯБЕ САМІ

*ЗАМАЛЁЎКІ З НАТУРЫ ЖУРНАЛІСТКІ Алены СПАСЮК*

### ТРОШКІ ПРА ЖАНОЧУЮ ДОЛЮ

Ніхто сёння не спрачаецца з тым, што жанчыне не пазайздросціш. Ва ўсім свеце яны скардзяцца, што іх дыскрымінуюць, недастаткова цэняць іх працу як у вытворчасці, так і ў сям'і.

Што ўжо казаць пра нашых жанчын, для якіх выпрабаваннем на моцныя нервы з'яўляецца і праца, і неналаджаны быт. У сённяшнім жыцці (багатым, можа, толькі на стрэсы) значнай становіцца роля жаночых арганізацый. Жанчыны ўжо зразумелі, што абараніць сябе могуць толькі яны самі. Паколькі свята 8 Сакавіка, калі іх песцяць увагай і пашанай, бывае адзін раз на год, а жыць і гадаваць дзяцей трэба штодзень, жанчыны імкнуцца паклапаціцца аб сабе і палегчыць сваё жыццё. І сёе-тое ім удаецца.

Напрыклад, Савет жанчын горада Мінска (жаночая грамадская непалітычная арганізацыя) на сваім рахунку мае нямала спраў. Адна з асноўных — гэта стварэнне малочнай кухні "Татошка". Кіруе Саветам жанчын і з'яўляецца дырэктарам малочнай кухні Таіса Пужэвіч. Аднойчы яна (па спецыяльнасці інжынер-тэхнолаг) стала беспрацоўнай. Таіса не была ўжо маладым спецыялістам, але ж да пенсіі было яшчэ далёка. Як страшна не мець працы і перабівацца часовымі заробкамі, яна ведае цяпер вельмі добра.

І Таіса Пужэвіч пачала арганізоўваць прадпрыемства па выпуску дзіцячага харчавання. Было тое ў 1992 годзе. У горадзе закрываліся малочныя кухні, у 1994-м спыніла сваю дзейнасць апошняя малочная кухня пры 7-й клінічнай бальніцы. Тэрмін дзеяння тэхналогіі па вытворчасці кісламалочнай прадукцыі, па якой тут працавалі, скончыўся ў 1993 годзе, абсталяванне знасілася.

Закрыццё малочных кухань у горадзе азначала, што немаўляты, маці якіх не могуць па нейкіх прычынах карміць дзіця грудзьмі, не будуць мець паўнацэннага харчавання. Большасць дзяцей, якія знаходзяцца на ненатуральным выкормліванні, пакутуюць на дыятэз. Ім паказаны прыём кісламалочных прадуктаў. Яны неабходны дзецям пры кішэчных інфекцыях, пры прыёме шэрагу лекаў. Такім чынам, колькасць дзяцей, якія пацярпелі ў выніку закрыцця малочных кухань, даволі значная.

### МАЛОЧНАЯ КУХНЯ "ТАТОШКА"

У памяшканні малочнай кухні, што ў Першамайскім раёне Мінска, месцілася камерцыйная структура. Паколькі будынак выкарыстоўваўся не па мэтаваму прызначэнню, зарэгістраванае да таго часу прадпрыемства малочная кухня "Татошка" звярнулася ў суд. У студзені 1994 года вышэйшы Гаспадарчы Суд рэспублікі Беларусь задаволіў іск аб мэтавым выкарыстанні памяшкання.

У кастрычніку таго ж года малочная кухня "Татошка" была адкрыта для наведвальнікаў. За гэтым стаяла вялікая праца. Па-першае, трэба было адрамантаваць памяшканне, бо атрымалі яго ў антысанітарным стане, без святла, дзвярных праёмаў, знікла частка халадзільнага абсталявання. Па-другое, неабходна было выпрацоўваць тэхналогію стварэння кісламалочных прадуктаў і арганізоўваць вытворчасць. Тэхналогія рыхтавалася на грамадскіх пачатках сумесна з Інстытутам мясной і малочнай прамысловасці. Грошы зарабляліся таксама гандлем гатовым дзіцячым харчаваннем. Трэба было плаціць супрацоўнікам, аплачваць камунальныя паслугі. А яшчэ — падаткі. У рэшце рэшт летам 1995 года насельніцтву былі прапанаваны бактэрыяльныя закваскі. З іх дапамогай маці магла дома падрыхтаваць кісламалочны прадукт для свайго дзіцяці. Пасля таго, як была створаная тэхналогія па вырабу лячэбна-прафілактычнага прадукту "Татошка-2" і ён прайшоў дзяржаўную рэгістрацыю, пачалі вырабляцца доследныя партыі.

Сёння прадпрыемства мае статус гасразліковага гандлёвага прадпрыемства. На ім працуе 18 чалавек. За змену малочная кухня "Татошка" вырабляе 150 порцый лячэбна-прафілактычных прадуктаў "Біфідабакт", "Біфілін", "Біфітат" і "Татошка". Першыя два прызначаны для нованароджаных, апошні — з 4-х месяцаў жыцця.

На малочнай кухні "Татошка" працуюць прадаўцы, якія адначасова з'яўляюцца і кансультантамі. Яны праходзяць стажыроўку ў Інстытуце мясной і малочнай прамысловасці, трымаюць экзамены. Ёсць на малочнай кухні і тэхналаг-мікрабіёлаг, які не толькі займаецца праверкай прадукцыі, але і кансультуе прадаўцоў і пакупнікоў. Гэта вельмі важна, бо пытанняў наконт кармлення дзіцяці ў бацькоў вельмі шмат. Па словах Таісы Пужэвіч, Дні маладой маці, якія праходзяць на малочнай кухні, — гэта бясконцая колькасць пытанняў. Людзі не ведаюць вельмі многага пра новыя прадукты дзіцячага харчавання. Нават урачам не хапае інфармацыі ў гэтай галіне. Медыкі лічаць за лепшае карміць дзіця мацярынскім малаком. Не спрачаючыся з гэтай аксіёмай, Таіса Пужэвіч сцвярджае: "Калі гэта становіцца немагчымым, дзіця не павінна пакутаваць ад недасведчанасці бацькоў. Яго трэба карміць правільна, выкарыстоўваючы і кісламалочныя прадукты ў тым ліку".

Сёння ў малочнай кухні "Татошка" — 4 філіялы, якія гандлююць кісламалочнай прадукцыяй, якая вырабляецца на тых самых адваяваных плошчах, што ў Першамайскім раёне горада Мінска. Прадукцыя разыходзіцца за некалькі гадзін. Дырэктар прадпрыемства Таіса Пужэвіч кажа на гэты конт: "Канешне, мы можам выпускаць большую колькасць прадуктаў. Але ж сітуацыя такая, што нам неабходны грошы на рэканструкцыю абсталявання". Таіса Пужэвіч спадзяецца, што дзяржаўныя структуры адзначаць сацыяльна значную дзейнасць прадпрыемства і падтрымліваюць яго: "Мы вельмі хацелі б пашырыць асартымент экалагічна чыстых, паўнацэнных прадуктаў харчавання для дзяцей і поўнасцю задавальняць патрэбы маленькіх жыхароў сталіцы, тым самым палегчыць жыццё іх маці".

### КРЫЗІСНЫ ЦЭНТР — ЧАСОВЫ ПРЫТУЛАК

Менавіта каб аблягчыць жыццё жанчын, Савет жанчын Мінска і Таіса Пужэвіч як яго кіраўнік арганізавалі прытулак для жанчын. Вышэй ішла гаворка пра філіялы малочнай кухні "Татошка" (яны, дарэчы, знаходзяцца ў памяшканнях малочных кухань, што існавалі да закрыцця іх сеткі па горадзе). Адно з памяшканняў выкарыстоўваецца пад Крызісны рэабілітацыйны цэнтр. Гэта цэнтр падтрымкі маці і дзіцяці. Адкрыты ён летась. Неабходнасць стварэння такой установы Таіса Пужэвіч тлумачыць так: "Я даўно працую ў грамадскай установе, мела шмат стасункаў з жанчынамі, добра ведаю іх нялёгкую долю. Не так даўно быў перыяд, калі раптам стала шмат жанчын, якія згубілі працу, у іх з'явілася шмат праблем. Не ўсе ў такім становішчы могуць самі справіцца з сітуацыяй і абысціся без маральнай падтрымкі. Менавіта дзеля аказання такой дапамогі мы і стварылі крызісны цэнтр.

Жанчына, здараецца, падвяргаецца насіллю — фізічнаму і маральнаму. Тады мы прапануем ёй часовы прытулак. Яна можа жыць у нас адна, а можа і з дзецьмі. Мы даём ёй своеасаблівую перадышку. Пры жаданні яе пракансультуе ўрач, псіхолаг, псіхатэрапеўт. Мы супрацоўнічаем з жаночым недзяржаўным інстытутам "Энвіла", які накіроўвае да нас спецыялістаў для кансультацый. Можна атрымаць кансультацыю па тэлефонах цэнтра. Крызісны рэабілітацыйны цэнтр працуе на аснове канфідэнцыяльнасці. Толькі па жаданню жанчыны мы звяртаемся ў міліцыю".

Дзякуючы падтрымцы адміністрацыі Фрунзенскага раёна, гасцініцы "Арбіта", цэнтр сёння абсталяваны мэбляй, забяспечаны посудам. Ёсць там кабінет урача. У "чорны" дзень для жанчыны ёй ёсць куды звярнуцца. І, можа, у выніку дзейнасці такіх арганізацый, як Савет жанчын горада Мінска, жаночая доля стане трошкі лягчэйшай.

**КАМП'ЮТЭРНЫЯ ГУЛЬНІ**








Прызнанне да маладых вучоных лабараторыі камп'ютэрнай мультыплікацыі Фізіка-тэхнічнага інстытута Нацыянальнай акадэміі навук прыйшло практычна адразу. Узровень іх распрацовак быў высока ацэнены. Работы беларускіх вучоных у галіне ігравых сістэм, якія абучаюць, былі ўключаны ў Брытанскі аглядны зборнік новых камп'ютэрных тэхналогій.

З'явіліся беларускія і замежныя заказчыкі — з Канады і ЗША. Адной з умой кантрактаў з замежнымі фірмамі прадугледжана пастаўка вялікай колькасці абсталявання і ліцэнзійнага праграмнага забеспячэння. Такім чынам вучоныя лабараторыі не толькі зарабляюць краіне валюту за кошт экспарту навукаёмістых тэхналогій, але і самі забяспечваюць сябе сучасным абсталяваннем. На ім вядуцца фундаментальныя і прыкладныя даследаванні.

Летась у рамках праграмы "Энергетыка" распрацавана сістэма адлюстравання апаратыўнай інфармацыі, 2 тысячы параметраў для кіравання энергасістэмай Рэспублікі Беларусь. Гэтая распрацоўка дазваляе рацыянальна размяркоўваць электраэнергію па рэгіёнах.

*На здымках: супрацоўнікі лабараторыі інжынер Ірына ШЫШКО, камп'ютэрны дызайнер Іна ЧАБАЦЬКО і загадчык Ігар ЧАБАЦЬКО працуюць над стварэннем новай камп'ютэрнай гульні; мастак камп'ютэрнай графікі Вольга ЖУКОЎСКАЯ; фрагмент новай праграмы.*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.*

# ЛІТАРАТУРНЫ ПРАЦЭС НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ І ТРАДЫЦЫІ СТАРАБЕЛАРУСКАЙ КНІЖНАСЦІ

● Алена ЯСКЕВІЧ,
*кандыдат філалагічных навук.*

СУЧАСНЫ літаратурны працэс на Беласточчыне мае багатыя карані і традыцыі ў сярэдневяковай літаратуры. Існаваў шэраг пісьменнікаў, якія стваралі своеасаблівы гістарычны летапіс гэтага краю. Пачынаецца ён з дваран Бельскіх. Марцін Бельскі (1495—1595) у трактаце "Кроніка света" пазытычна ўпісваў свой край у кантэкст сусветнай гісторыі (ад Нараджэння Божага). Яго сын Іаахім даследаваў мінулае і рэаліі сучаснага жыцця сваёй радзімы ўжо ў межах аб'яднанай польска-літоўскай дзяржавы.

Амаль усе буйныя пісьменнікі старабеларускай і старапольскай літаратуры "залатога веку" так ці інакш былі звязаны з гэтым краем. І, узнікшая на глебе такой багатай творчай спадчыны, беластоцкая літаратура, як асобная адзінка ў еўрапейскім мастацкім працэсе, мабыць, у большай ступені, чым уласна беларуская, захавала блізкасць да вызначальных рыс нацыянальнага архетыпу: жыццяздольнасці і захаванасці беларускамоўнай традыцыі і спрадвечна праваслаўная канфесійная арыентацыі.

ПАЛІТОЛАГІ сцвярджаюць, і неяк гэта дзіўна склалася, што ва ўмовах сучаснай еўрапейскай цэнтралізацыі Беласточчына ўвогуле, а Падляшша ў прыватнасці, апынуліся, з аднаго боку, па-за межамі польскай этна-культурнай традыцыі, з другога боку, даволі апасродкавана ўключанымі ў беларускі працэс адраджэння. Гэтыя два рэгіёны сталіся ў Еўропе, у дзяржаўных межах іншай нацыі, нечым напаўзабытым, але незалежным, непасрэдна звязаным з іншымі краінамі свету. Акрамя таго, Беласточчына і Падляшша, даволі замкнутыя, як рэч у сабе, сталі своеасаблівымі жывымі запаведнікамі, якія праіснавалі і, так хочацца спадзявацца, будуць існаваць вякі і вякі.

Стагоддзі, міграцыі ў Еўропе, дзяржаўныя мітрэнгі не здолелі змяніць гэтую старадаўнюю хаду падзей, амаль сярэдневяковае існаванне ў прасторы свайго ўласна нацыянальнага часу і вымярэння. Для сярэдневяковага, як і для рэнесанснага чалавека, уяўленне пачатку і паняцце закончанасці (славуты прынцып "finito") — важныя кампаненты культуры, арыентаванай на класічную завершанасць кожнай справы. Гэтае знакамітае сярэдневяковае адчуванне, імкненне кожнага чалавека быць майстрам, гаспадаром сваёй зямлі, усведамленне кожным рэгіёнам сваёй адасобленасці, адметнасці, сцвярджэнне асабістага права на пачэснае месца ў гэтым свеце, між народамі, відаць, захавалася ў генафондзе жыхароў Беласточчыны і Падляшша і да гэтай пары. Так і хочацца згадаць словы Якаба Грыма, вядомага нам з дзяцінства збіральніка казак, а ў навуковым свеце яшчэ больш вядомага як пачынальніка параўнальна-гістарычнай лінгвістыкі: "Праявы мовы простыя, натуральныя, поўныя жыцця, падобныя да хуткага звароту крыві ў маладым целе. Словы тоўпяцца густым натоўпам, як сцяблiны травы. Усе паняцці ўзнікаюць з пачуццёвага празрыстага сузірання, якое ўжо само было думкаю і ад якога ва ўсе бакі распаўсюджваліся элементарныя новыя думкі. Суадносіны слоў і ўяўленняў наіўныя і свежыя, але выказваюцца без прыхарошвання наступнымі, яшчэ не далучанымі словамі. З кожным сваім крокам мова разгортвае сваё багацце і здольнасці, але ў цэлым яна робіць уражанне пазбаўленай меры і ўпарадкаванасці,.. бо святло і цень не маглі ў ёй як след размеркавацца".

І гэтае амаль старажытнае, з часоў яшчэ "дзяцінства народа", у сузіранні якога жыццё не распалася на паэзію і прозу, але сама проза жыцця апаэтызавана, калі яшчэ "мова ў сваім пачатку поўніцца словамі і выразамі", якія, паводле В. Бялінскага, "дыхаюць якойсьці дзіцячай прастатою, высокай паэзіяй", асабліва палонiць чытача ў творчасці Зоі Сачко:

> Пора пора
> до тэплого краю
> жар сэрця і каліны
> в макатку зашыті
> радкі позолочаны бэрозовы
> чытаті
> тіхо слухаті
> бачыті мэнч
> в скрыню напіхалі
> — мыш з'їэла
> тішмось — шчэ можэ
> усьпіэм
> в одінацьты час.

Мова сапраўды пачыналася з іменаў, вобразных найменняў навакольнага свету. Гэты вобраз, які доўжыцца ў слове на працягу ўсяго яго гістарычнага жыцця, вучоныя называюць унутранай формай. Увесь сакрэт старажытнага слова ў тым, што ў ім унутраная форма-прыкмета яшчэ адкрытая, у той час як у сучасным стане мовы, у выніку бясконцых змен у знешняй абалонцы слова (шматразовыя чаргаванні гукаў, рэдукаванне, пераход галоўных часцін мовы ў службовыя і інш.), унутраны першакаранёвы вобраз аказваецца прыцемненым і ў большасці сваёй непазнавальным. Вось чаму мова паўнакроўная і жывая толькі ва ўсёй сваёй гістарычнай рэальнасці, і сапраўдны яе носьбіт — той, **хто адчувае, бачыць яе ў повязі часоў**. І, дзякуючы найбагацейшай культуры старабеларускай мовы, носьбіт яе беластоцка-падляшскага этна-дыялектнага масіву мае шчаслівую магчымасць падтрымліваць і ўзнаўляць унутраную вобразнасць слова ў гэтай гістарычнай часавай паяднанасці.

ПАШЫРАНАЕ апошнім часам узбагачэнне літаратурнай мовы за кошт інтэнсіўнай распрацоўкі дыялектных лексіка-фанетычных пластоў, што асабліва выяўляецца праз пісьменніцкую моватворчасць, мае не адзін толькі станоўчы бок. Як заўважана даследчыкамі, дыялектные слова пры канкрэтна-бытавой арыентацыі яго затрымлівае літаратурную мову ў зніжаных стылях, у стане паслабленай нарміраванасці і абмяжоўвае яе магчымасці ў развіцці высокага стылю, абстрактна-адцягненых адценняў у слове. Вось чаму ў беларускай мове сёння так востра паўстае праблема ўзбагачэння сінанімічных радоў, якія б забяспечвалі — ад нізкіх да высокіх, урачыстых — усе ярусы функцыянальна-стылёвай сістэмы. Масіў беластоцка-падляшскіх гаворак, больш чым якая іншая крыніца, дазваляе папоўніць запас высокай, яшчэ стараславянскага кораня, лексікай, фона-марфалагічных, часам дыфтангічнага паходжання, лінгвістычных адзінак і, такім чынам, структура развіць фанетычны і сінанімічны апарат сучаснай літаратурнай мовы.

## ВЫСТАВА Ў ЦЭНТРЫ «ДАНЬКОЎ КЛУБ»

Жыве ў Мінску мастак, карціны якога пазнаеш адразу. І не таму, што Рыгор Несцераў эпацiруе гледача нейкімі незвычайнымі сюжэтамі ці вобразамі. Зусім не. Проста гэта прыгожыя сентыментальныя карціны, гледзячы на якія, атрымліваеш задавальненне ад іх спакою, ад спалучэння фарбаў. Яны здаюцца эпізодам успамінаў пра нешта не спраўджанае ў тваім жыцці, такое далёкае ад цябе ў прасторы, але блізкае тваёй душы.



Карціны Рыгора Несцерава прыцягваюць сваімі таямнічымі, амаль празрыстымі мазкамі, не адпускаюць ад сябе. Яны вытанчаныя па колеру, па сюжэту. Мастак выстаўляе свае творы без рам і тлумачыць гэта тым, што рама — сімвал мяжы. А тэма мастака — абсалют, які для яго з'яўляецца не абстрактным ідэальным паняццем, а ўсім светам у цэлым: "Я магу датыкнуцца ў любой прасторавай, часавай кропцы да абсалюта. Рама адцягвае ўвагу. Мне яна не патрэбна". Раней мастак заўсёды выстаўляў карціны без назваў (персанальныя выставы праходзілі ў Германіі, Швейцарыі, Расіі, ЗША). Цяпер назвы з'явіліся, але, як ён кажа, выходзячы толькі з тэхнічных меркаванняў. Назвы такія — "Пяшчота", "Маўчанне", "Святло месяца", "Мелодыя". Мастак прадставіў свае працы гледачам у вядомым мінскім забаўляльным цэнтры "Данькоў клуб". Можа, гэта і не лепшае месца для такіх сентыментальных, выпісаных карцін. Але сёння не так проста знайсці выставачную залу для работ. "Данькоў клуб" даў Рыгору Несцераву такую магчымасць, мабыць, жадаючы паказаць, што заможныя людзі, якія там бываюць, неабыякавыя да мастацтва...

**Ліна ДАР.**

## ЮБІЛЕЙ МУЗЕЯ





## ЦЭНТР КУЛЬТУРЫ, ПРАВАСЛАЎЯ І АДУКАЦЫІ

# МАГІЛЁЎСКАЯ

● Аляксей ШАЛАХОЎСКІ,
*навуковы супрацоўнік Беларускага інстытута праблем культуры.*

*Пасля далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі культура і адукацыя на Беларусі развіваліся ў новых гістарычных умовах. Тагачасную Беларусь не абмінуў агульнаеўрапейскі працэс адноснай дэмакратызацыі культуры і адукацыі, што выклікала патрэбу ў рэлігійных кадрах.*

Магілёўская духоўная семінарыя стала ўстановай новага тыпу. Семінарскі комплекс уключаў унікальную бібліятэку, уласнае выдавецтва і друкарню, царкоўнапрыходскую школу, апякунскае таварыства, Спаса-Праабражэнскую царкву, шпіталь і некаторыя іншыя рэлігійныя навучальныя ўстановы. У 1758 годзе Магілёўская духоўная семінарыя была афіцыйна прызнана расійскім урадам. Імператарскі ўказ рэкамендаваў Сіноду штогод выдзяляць чатырыста рублёў на ўтрыманне навучальнай установы. Заснавальнік семінарыі — вядомы рэлігійны дзеяч, філосаф епіскап Георгій Каніскі (1717—1795).

З'яўленне навучальнай установы суправаджалася шматлікімі супрацьдзеяннямі з боку католікаў і уніятаў, нават праваслаўнае духавенства спачатку з непаразуменнем ставілася да новай навучальнай установы і баялася аддаваць дзяцей на вучанне. Георгій Каніскі імкнуўся растлумачыць духавенству значнасць атрымання добрай рэлігійнай адукацыі. Вядомы царкоўны гісторык заахвочваў тых святароў, якія накіроўвалі сваіх дзяцей вучыцца. Так ён пераводзіў святароў з беднага прыходу ў лепшы, каб тыя мелі магчымасць вучыць дзяцей. Калі паміраў святар, сын якога навучаўся ў семінарыі, то прыход пераходзіў да сына. Выпускнікі семінарыі карысталіся рознымі льготамі на службе. Нярэдка яны заахвочваліся матэрыяльна і пасля заканчэння навучальнай установы.

У 60-я — 70-я гады XVIII стагоддзя адносіны духавенства да адукацыі карэнным чынам змяніліся.

3 ліпеня 1779 года імператрыца Кацярына II выдала ўказ аб заснаванні духоўнай школы ў Невелі. Гэта быў першы філіял семінарыі. У 1781 годзе па распараджэнню Г. Каніскага ў Гомелі было адкрыта духоўнае вучылішча, якое таксама падпарадкоўвалася Магілёўскай духоўнай семінарыі. Граф Н. Румянцаў апякаў Гомельскае духоўнае вучылішча. Дырэктарам гэтага філіяла быў выпускнік Кіеўскай духоўнай акадэміі Іван Грыгаровіч (муж пляменніцы Г. Каніскага). У 1798 годзе імператар Павел I узнагародзіў І. Грыгаровіча каштоўным падарункам за сумленную працу на карысць Айчыны.

У 1780—1785 гадах быў пабудаваны новы вучэбны корпус семінарыі. На працягу пяці год яго будаўніцтвам кіраваў вядомы архітэктар, мастак, правадзейны член Пецярбургскай акадэміі



Віцебскаму абласному краязнаўчаму музею — 80 гадоў. У розны час на ніве музейных спраў у Віцебску працавалі такія вядомыя гісторыкі і краязнаўцы, як Аляксей Сапуноў, Еўдакім Раманаў, Мікалай Нікіфароўскі і іншыя. Дзякуючы ім, пастаянна назапашвалася шматлікая калекцыя экспанатаў. І хаця афіцыйнай датай узнікнення музея лічыцца 1918 год, ён мае больш чым векавую гісторыю.

У гады Вялікай Айчыннай вайны супрацоўнікі музея вывезлі асноўную частку экспанатаў у Саратаў, адкуль не ўсе яны вярнуліся назад. Праўда, у пасляваенныя гады калекцыя значна павялічылася і сёння налічвае каля 166 тысяч прадметаў асноўных фондаў.





*На здымках: Віцебскі абласны краязнаўчы музей; мастак-рэстаўратар Юрый КЕГЕЛЕЎ; навуковыя супрацоўнікі музея Таццяна ДАШКОЎСКАЯ і Вера РОГАЧ; экскурсію з дзецьмі праводзіць Эла ДРУЖКОВА.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.*

**РАДКІ З ПІСЬМА**

**Шаноўныя калегі!**
**Віншую калектыў паважанай газеты з Новым, 1999 годам і Калляднымі святамі!**
**З новым шчасцем!**

**Ваш аўтар** **Аляксандр ЖАЛКОЎСКІ, старшыня Лідскага аддзялення таварыства "Беларусь — Польшча".**

*P.S. Дасылаю вам чарговыя весткі з Лідчыны.*

## ДЗЕЦІ СПЯВАЮЦЬ ПА-ПОЛЬСКУ

У Лідзе адбыўся дзіцячы фестываль польскай песні. З гэтай нагоды ў старажытны горад прыехалі дзіцячыя мастацкія калектывы з розных куткоў Гродзеншчыны. Змястоўна і цікава выступілі юныя спевакі і музыкі ад 6 да 16 гадоў. З поспехам дэманстравалі сваё майстэрства выканаўцы з Воранава і Гродна, Слоніма і Ліды. Добрае ўражанне ў гледачоў і высокую ацэнку журы выклікалі выступленні ансамблю "Мір і дабрыня" (Слонім) і новай школы з польскай мовай выкладання ў Гродне.

Мне, як лідчаніну, было прыемна сустрэцца на фестывалі з мясцовым сямейным ансамблем Сахоняў. У гэтым мастацкім гурце разам з бацькамі таленавіта выступаюць трое іх дзяцей. Летась згаданы калектыў атрымаў высокую адзнаку на рэспубліканскім аглядзе сямейных ансамбляў у Слоніме. На гэты раз я адкрыў яшчэ адзін бок мастацкіх здольнасцей Сахоняў. Іх фалькпорны ансамбль з аднолькавым поспехам, аказваецца, выконвае як беларускія, так і польскія народныя песні. А таму на фестывалі ў Лідзе маці Леакадзія і яе дзеткі ўдастоены ганаровага дыплома Саюза палякаў Беларусі.

## ЗАКЛЮЧНЫ АКОРД ЮБІЛЕЮ

Напярэдадні каталіцкіх Каляд у Навагрудку закончыліся ўрачыстасці, што праходзілі па ўсёй краіне на працягу 1998 года ў сувязі з 200-годдзем з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Юбілею вялікага польскага паэта і слаўтага сына прынёманскай зямлі прысвячаліся чарговыя "Навагрудскія чытанні". Сімвалічна, што яны адбыліся ў Доме-музеі Вяшчуна. Удзельнікі сустрэчы гаварылі аб сусветным значэнні паэзіі Адама Міцкевіча, яго барацьбе за незалежнасць сваёй Айчыны, ролі беларускага фальклору ў паэме "Дзяды" і іншых творах, а самога класіка — у кантэксце польскай краёвай літаратуры ў Беларусі.

З цікавымі паведамленнямі выступілі навукоўцы з Мінска і Гродна: У. Конан, В. Швед, С. Словік, А. Радзюк, С. Сяльверстава, У. Сосна, М. Загідуліна, А. Пяткевіч, С. Мусіенка, Ф. Спірыдонаў, А. Кішымаў, вядомыя краязнаўцы С. Дрозд (Гродна), В. Кунашка (Карэлічы), В. Дубейка (Баранавічы).

Заключным акордам юбілею стала ўрачыстае пасаджэнне прадстаўнікоў грамадскасці горада з удзелам гасцей з Гродна і Мінска ды святочны канцэрт. Да помніка Адаму Міцкевічу былі ўскладзены кветкі.

# ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ

*У 1752 годзе ў горадзе Магілёве была заснавана новая вучэбная ўстанова, якая атрымала назву "духоўнай семінарыі".*

*У розныя гады лёсы многіх людзей тым ці іншым чынам перамяжоўваліся з гісторыяй Магілёўскай духоўнай семінарыі. Гэта Георгій Каніскі і Іосіф Бекарэвіч, Хвёдар Жудро і Іван Грыгаровіч, Платон Гаручка і Міхаіл Багуслаўскі, Канстанцін Палікарповіч, Міхаіл Валатоўскі і Іван Гарбачэўскі, Панцеляймон Лепяшынскі і Дзмітрый Ціхаміраў, Мікалай Львоў, архімандрыты Ціхан і Анікій, Мікалай і Аркадзій, Васіль Семяроўскі і Іван Растоўскі, Аляксей Маркоўскі і Васіль Катовіч, Пётр Сушчынскі і Міхась Альшэўскі.*

мастацтва, ганаровы член Расійскай акадэміі навук Мікалай Львоў (1751—1804). Будынак Магілёўскай духоўнай семінарыі ўваходзіў у ансамбль магілёўскага Спаскага манастыра і быў пабудаваны ў стылі класіцызму, да нашага часу не захаваўся.

19 жніўня 1788 года архіепіскап Георгій Каніскі ахвяраваў на семінарскую бібліятэку каля 100 кніг.

У 1795 годзе састарэлы архіепіскап Георгій Каніскі раптоўна памёр. Згодна з запаветам вядомага рэлігійнага дзеяча і царкоўнага гісторыка ў гэтым жа годзе Магілёўская духоўная семінарыя атрымала ў спадчыну ўсю яго бібліятэку. Пасля смерці Г. Каніскага семінарыяй кіраваў архіепіскап Анастасій Братаноўскі (1761—1806). У 1799 годзе ў семінарыі была заснавана прафесійная капэла, якая карысталася папулярнасцю на тэрыторыі Беларусі. Найбольшага росквіту капэла дасягнула падчас кіраўніцтва Івана Дабравольскага. Вучні Дабравольскага ігралі на скрыпках, кларнетах, флейтах, віяланчэлях, валторнах. Яны развучвалі паланезы, маршы, кадрылі, кантадансы, англезы, вальсы і канты.

У часы Анастасія Братаноўскага Магілёўская духоўная семінарыя набыла вялікі размах: з'явіліся новыя семінарскія будынкі, павялічыўся састаў прафесуры, палепшылася вучэбная справа, упарадкавалася дзейнасць праўлення. Усё гэта было вынікам вялікіх намаганняў.

Нягледзячы на фінансавыя цяжкасці ў пачатку XIX стагоддзя, Магілёўская духоўная семінарыя працягвала садзейнічаць развіццю культуры, навукі, педагогікі. У 50-я гады XIX стагоддзя семінарыя ўяўляла сабой маленькую дзяржаву.

У 1885 годзе члены савета Магілёўскага праваслаўнага брацтва заявілі, што пры Магілёўскай духоўнай семінарыі неабходна адкрыць узорную царкоўнапрыходскую школу. З 1886 года такая школа пасапраўднаму аб сабе заявіла. Гэта была трэцяя па ліку навучальная ўстанова, якая падпарадкоўвалася Магілёўскай духоўнай семінарыі і знаходзілася ў будынку Бернардзінскага манастыра.

У 1889 годзе Магілёў разам з іншымі гарадамі заходняй Расіі святкаваў 50-годдзе вяртання уніятаў да праваслаўнай царквы. Магілёўская духоўная семінарыя стала цэнтрам святкавання гэтай вялікай падзеі Заходняга краю.

Яшчэ адна значная падзея адбылася ў Магілёўскай духоўнай семінарыі ў другой палове 80-х гадоў. Была заснавана стыпендыя імя архіепіскапа Паладзія (Паўла Ганкевіча) (1823—1889). Паладзій рэкамендаваў даваць гэту стыпендыю аднаму з лепшых вучняў на весь перыяд навучання ў семінарыі. Права абрання стыпендыята прадастаўлялася праўленню семінарыі.

Новы час дыктаваў і новыя ўмовы. Магілёўская духоўная семінарыя, як і раней, займала лідзіруючыя пазіцыі сярод духоўных вучэбных устаноў Расійскай імперыі. У 1897 годзе было арганізавана Таварыства дапамогі збяднелым выхаванцам семінарыі. У статуце таварыства гаварылася пра тое, што дапамога павінна быць аказана тым выхаванцам семінарыі, якія збіраюцца паступаць у іншыя навучальныя ўстановы краіны. Матэрыяльная дапамога аказвалася семінарыстам толькі адзін раз і толькі самым здольным, таленавітым і прыстойным. Дапамога таварыства праяўлялася ўзносамі на навучанне, бясплатнай выдачай вучэбных кніг (з тых, што адобраны Міністэрствам народнай адукацыі і духоўным ведамствам), гандлем рэлігійнай літаратурай са скідкай. Дабрачыннае таварыства дапамагала семінарыстам адзеннем, ежай, медыцынскай дапамогай; нават дапамагала здымаць недарагую кватэру. У выключных выпадках таварыства прызначала семінарыстам грашовыя дапамогі. Старшынёй праўлення таварыства абіраўся рэктар семінарыі. Таварыства знаходзілася пад наглядам Міністэрства ўнутраных спраў і пад апякунствам епархіяльнага архіпастыра.

Безумоўна, Магілёўская духоўная семінарыя не ўзнікла з нічога і сама па сабе не будавалася. Нараджэнне і росквіт, працвітанне і ўзлёт навучальнай установы адбыліся толькі дзякуючы тытанічным намаганням вялікіх рэлігійных дзеячаў — яе стваральнікаў, што ўзбагацілі тэалагічныя веды, навуку, культуру нашай Айчыны. Адным з іх з'яўляецца Арсеній (Хвёдар) Масквін, які пасля заканчэння Кастрамской духоўнай семінарыі і С.-Пецярбургскай духоўнай акадэміі і атрымання ступені бакалаўра багаслоўскіх навук у 1825—1827 гадах рэктарстваваў у семінарыі. У 1832 годзе Хвёдар Масквін стаў епіскапам, а ў 1841-м — архіепіскапам Падольскай епархіі. У 1848 годзе Х. Масквін — архіепіскап Варшаўскі, а ў 1860—1876 — Кіеўскі мітрапаліт.

Шмат карыснага ў семінарыі адбылося дзякуючы Сергію (Івану Сакалову (1843-...?), выпускніку Смаленскай духоўнай семінарыі і Маскоўскай духоўнай акадэміі, які ў часы дацэнства ў Маскве напісаў фундаментальнае даследаванне "Адносіны пратэстантызму ў Расіі ў XVI—XVII стагоддзях", якое ў 1880 годзе было адзначана ступенню магістра багаслоўя. У 1884 годзе І. Сакалоў стаў лаўрэатам Макар'еўскай прэміі — 1 000 рублёў. У гэтым жа годзе распачалося рэктарства Сергія ў Магілёўскай духоўнай семінарыі, падчас якога было зроблена шмат станоўчага: заснаваны стыпендыі, адкрыта ўзорная царкоўнапрыходская школа, заканадаўча аформлена Спаса-Праабражэнская царква як маёмасць семінарыі, праведзена яе рэканструкцыя, палепшана матэрыяльная база і арганізаваны 100-гадовы юбілей навучальнай установы.

Нельга не згадаць асобу архімандрыта Мікалая (Міхаіла Зіёрава), які пасля заканчэння Адэскай духоўнай семінарыі (1871) і Маскоўскай духоўнай акадэміі (1875), як кандыдат багаслоўя, у 1887—1889 гадах рэктарстваваў у Магілёўскай духоўнай семінарыі. Разумны, энергічны, таварыскі і ўважлівы, ён заўсёды ўмеў выклікаць прыхільнасць да сябе сваіх "гадаванцаў", часта размаўляў з імі, сапраўды ўплываў на іх і надаваў ім высакароднасці. На жаль, дзейнасць архімандрыта Мікалая ў Магілёве была непрацяглай, бо ў маі 1889 года яго прызначылі рэктарам у Тыфліскую духоўную семінарыю, а з 1896 года кіраваць праваслаўнай епархіяй у Амерыцы.

Вось некаторыя са шматлікіх кіраўнікоў Магілёўскай духоўнай семінарыі, хто сваёй перакананасцю, розумам і верай выхаваў не менш дастойных паслядоўнікаў, якія ўвайшлі ў гісторыю як дзеячы праваслаўя, культуры і педагагічнай думкі.

Гісторыя Магілёўскай духоўнай семінарыі, якая існавала з 1752 па 1918 год, — гэта не толькі гісторыя беларускага народа, гэта гісторыя культур трох славянскіх народаў: беларускага, рускага і украінскага.

**НОВАЕ ПРА УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА**

Я ад Валодзі ніколі не чула такіх разважанняў, што Кіеў — пачатак усяму. У яго, хутчэй, было гістарычнае ўспрыняцце Кіева.

Мы ж тады не хадзілі самі ва Уладзімірскі сабор ці яшчэ куды. Такі быў час — наскрозь атэістычны. Нам не чыталі курс атэізму (як пасля ў ВНУ), але мы былі народжаны атэістамі: неадукаванымі і непісьменнымі. І, скажам, ва Уладзімірскі сабор ісці — позіркі скоса: а чаму? Можа, веруючы? А калі веруючы — ужо не чалавек. Таму Валодзя пра ўсе свае паходы не вельмі расказваў. Аднак я ведаю, што Кіева-Пячэрскую лаўру ён прайшоў удоўж і ўпоперак. Бываў ён у Сафійскім і Уладзімірскім саборах, ведаў гісторыю кожнага будынка. Акром пісьменніка і мастака ў ім жыў яшчэ і гісторык — глыбокі, эрудзіраваны.

# «ПОДЫХ ЮНІ ЎХОДЗЯЧАЙ МАЁЙ...»

***Працяг гутаркі журналісткі Галіны ШАБЛІНСКАЙ з Музай СНЯЖКО, аднакурсніцай і сяброўкай юнацтва Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА***

А мы любілі Уладзімірскую горку і яшчэ адну горку, таксама над Дняпром, ля філармоніі, — гэта традыцыйныя месцы прагулянак нашага курса. Мы блукалі па ніжнім парку абавязкова ў лістапад, а 2 ці 3 верасня — па схілах Дняпра і па выставе кветак. Усе пяць гадоў нашай вучобы ў гэтыя дні стаяла цёплае сонечнае навор'е (а цяпер чамусьці часта 1 верасня ідзе дождж).

Я, напрыклад, не помню, каб мы раптам сабраліся і пайшлі курсам ва Уладзімірскі сабор ці ў Сафію. Валодзя гэта рабіў адзін. Толькі я ніколі не заўважала ў яго настрояў пракіеўскіх. Не. Мне здаецца, ён гэта ўспрымаў як гістарычныя факты: і Старажытную Русь, і Кіеў, і хрышчэнне Русі, і ўсё астатняе... Разуменне старадаўнасці прыносіла яму асалоду. Ён, мусіць, часта адчуваў сябе ў тых далёкіх часах...

— Лірызм ці лірычнасць Караткевіча — чым вам сёння прыпамінаецца? Скажам, як адчуванне жыцця, як распазнаванне характараў, як тлумачэнне асобных учынкаў, а, мажліва, патрэбнасць яго душы ў адносінах з іншымі? Свой камертон у гэтым свеце...

— Лірызм?.. Можна гаварыць пра лірызм увогуле альбо пра той, які ўласцівы некаму канкрэтна. Караткевіч быў лірыкам. У адносінах да прыроды. Ён мог гаварыць пра лісце, як яно ляціць, шамаціць — ты паглядзі толькі! — бясконца. Ён чытаў любую пару года, разумееце! У адносінах да людзей?.. Не заўсёды і не да кожнага. Яго лірыка — пэўны стан душы ў пэўны перыяд.

Але нельга сказаць, што на лекцыях сядзеў лірык. Не. Валодзя быў розны і ўсякі. Але душа яго вылучалася мяккасцю. Лірызм яго больш праяўляўся да нашых аднакурсніц. Я ні разу не чула, каб Валодзя каму-небудзь з нашых дзяўчат за 5 гадоў вучобы нахаміў. Ён пры выпадку маляваў, пісаў вершы. Я не сцвярджаю, што ён — анёл з крылцамі, не. Характар упартага чалавека часта тырчаў з-пад яго шавялюры, бобачкі, нават з партфеля... Але засталося адчуванне цёплых і добразычлівых адносін да нас. Калі збіраліся студэнцкія кампаніі, ён не чытаў нешта патрыятычнае. З Валодзевай душы струменіліся яго пяшчотныя лірычныя вершы, яго вельмі меладычныя апавяданні.

Асабіста мне падабалася, як і што ён чытаў па-беларуску. Так гаварыць мог не кожны. Напрыклад, у Няўважнага — стыль больш рэзкі, абрывісты. У Валодзі лірычнасць адбівалася нават у тоне. Вядома і іншае: ён мог сказаць так, што трэсліся сцэны. Але па сваёй прыродзе Валодзя быў усё ж лірыкам. І яго беларускае "гэта" я помню да сённяшняга дня.

А з цягам часу, безумоўна, лірызм Караткевіча выявіўся ў творчасці. У яго цудоўная прырода. Чыстае і высокае каханне. Высакародства ў душах герояў...

Мне згадваецца, як Валодзя прыходзіў да мяне на дні нараджэння. Гэта вясна, красавік. А мы жылі ў сваёй хаце, пад вокнамі — сад. І я толькі пасля, пабываўшы ў Оршы, зразумела, што яму ўсё гэта нагадвала бацькоўскі дом. Яго душа, якая фарміравалася на прыродзе, адпачывала ў нас, цешылася блізкім ёй асяроддзем. Аднойчы ў такі дзень увесь сад бялеў — зацвілі яблыні. Было незвычайна прыгожа. І назаўтра я атрымала ад Валодзі верш, вельмі чуллівы і лірычны.

Помню, нейкі час я займалася музыкай. І мы з ім прыходзілі ў парк, ён садзіўся на лаўку і чакаў мяне. А я ішла ў дом насупраць на заняткі. Ён чамусьці сядзеў менавіта ў парку, а не ў двары. Сярод дрэваў, травы, кветак. Магчыма, гэта таксама было патрэбай яго лірычнай душы. Потым, зноў жа паркам, мы вярталіся з ім ва універсітэт.

І яшчэ, мне здаецца, усе студэнцкія гады Валодзі не хапала сям'і, мамы. Ён жыў спачатку ў цёткі, потым у інтэрнаце. А яму хацелася цёплага хатняга асяродку. Калі ён прыходзіў да нас, то адчуваў сябе лёгка і проста. Да таго ж — сад. Таму душа яго і пела. Яму падабаліся мае бацькі. Цяпер, калі гэта прыгадваеш, чытаеш творы Караткевіча — разумееш: такая яго прырода. Ён лірык. Без усялякіх сумненняў.

— Тым не менш, Муза Яўгенаўна, гэта быў сапраўдны мужчынскі характар, і на ваша ўспрыманне яго як аднакурсніцы, і па нашаму ўражанню як чытачоў яго твораў. Чым можна растлумачыць мужнасць Караткевіча? З чаго яна складалася і як утрымала яго ў жыцці?

— Я лічу, мужчынскі характар і мужнасць Караткевіча найперш праяўляліся праз яго бескампраміснасць. Гэта чалавек, які яшчэ ў 1949 годзе зялёненькім юнаком меў на ўсё свой погляд. Валодзя быў гатовы нават да пакарання за свае прынцыпы. І з гадамі гэта не прайшло, а толькі ўмацавалася. Калі б ён быў іншым — раней пачалі б друкаваць і часцей. Не інкрымінавалі б у 1963 годзе "фармалістычныя выкрутасы", "абстрактны гуманізм" і пацыфізм і не рассыпалі б набор рамана "Леаніды не вернуцца да Зямлі".

Па-мойму, мужнасць Валодзі — гэта не фізічны аспект жыцця чалавека, а маральны. Яго шлях, і жыццёвы, і творчы, не быў лёгкім. Але ён заўсёды захоўваў годнасць, працягваў працаваць і спадзявацца. Ён не мог здрадзіць сабе і трымаўся сваёй цвёрдай прынцыповай лініі. Напрыклад, можна сесці ў самалёт, высока ўзняцца, а потым скокнуць. І дзеля гэтага таксама патрэбна мужнасць. Валодзю мужнасць патрэбна была, каб выжыць. Таму што ў жыцці магло здарыцца інакш. Не так мог скласціся яго лёс, як ён склаўся...

— Пасляўніверсітэцкія сустрэчы вашага курса як часта надараліся? Ці прыязджаў на іх Караткевіч? І ці мянялася з гадамі думка аднакурснікаў пра яго асобу?

— Я павінна вас засмуціць. На курсе ніхто нічога не гаварыў спецыяльна пра Караткевіча. Спачатку мы ўсе, як грамадзяне сваёй краіны, раз'ехаліся па размеркаванню. Потым паступова сталі вяртацца. Валодзя, адпрацаваўшы два гады ў Лесавічах, у Кіеў не вярнуўся. Паехаў дадому, на Беларусь. Я пасля года працы ў Кіеўскай вобласці выйшла замуж, жыла ў Запаляр'і і Архангельску. На нейкі час наша "курсавое жыццё" замерла. Ва ўсіх былі свае новыя праблемы і клопаты. Але пазней мы зноў сабраліся і перыядычна сустракаемся па сённяшні дзень.

Валодзя не заўсёды трапляў на нашы сустрэчы. Часцей на іх бывалі кіяўляне і тыя, хто жыў бліжэй, на Украіне. Калі расказвалі, што Валодзя друкуецца, — тое абсалютна спакойна ўспрымалася большасцю. І толькі нямногія праяўлялі такую, я б сказала, "раўнівую" цікавасць: дзе друкуецца, што? А цікавасць астатніх — на агульным узроўні: дзе Юрчанка? А Ліннік? А Караткевіч? У Мінску? Жанаты? Кватэра ёсць? І ўсё. Такая жыццёвая інфармацыя. І толькі пазней, калі Валодзя стаў прызнаным пісьменнікам, канешне, сталі пытацца. Але зноў жа павінна зазначыць, што, дай пачытаць...

— ніхто не прасіў?

— Прасілі, але не ўсе. Караткевіч выдаваўся ў нас на ўкраінскай мове. Курс па-ўкраінску не чытаў. Мы па спецыялізацыі — русісты, і таму прасілі ў мяне выданні на рускай мове. І гэта ўжо, сапраўды, была цікавасць да пісьменніка Караткевіча, а не проста да аднакурсніка Валодзі Караткевіча.



*Кабінет Уладзіміра Караткевіча ў Мінску.*

---

Працяг.
Пачатак у №№ 48—52, 1998 г. і ў № 1, 1999 г.



## НОВЫЯ КНІГІ

### ПА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

**ПРА БЕЛАРУСЬ І ЯЕ ЖЫХАРОЎ**

**Доўнар Т.** Калі шляхціц мог загаўкаць па-сабачы: [З гісторыі развіцця крымінал. права на Беларусі ў XVII ст.: У асноўным на падставе аналізу крымінал.-прававых норм Статута 1588 г.] // Бел. Мінуўшчына. 1998. № 1. С. 37—40.

**Лісты** Барбары Радзівілянкі да караля Жыгімонта Аўгуста [XVI ст.] / Прадм. Н. Русецкай [пра гісторыю кахання Жыгімонта і Барбары] // Спадчына. 1997. № 6. С. 186—194.

**Сідарэнка Б.** "Старадубская вайна": (Вайна ВКЛ з Маск. дзяржавай 1534—1537 гг.) // Бел. гіст. часоп. 1998. № 1. С. 37—46.

**Янушкевіч А.** Прысяга Стэфана Баторыя: [Пра падрыхтоўку да ваен. дзеянняў у 1579 г. (у час Лівон. вайны 1558—1583 гг.), у выніку якіх войскам дзярж. дзеяча, палкаводца, вялікага князя ВКЛ і караля польскага Стэфана Баторыя (1533—1586) былі адваяваны ў Маск. дзяржавы ўсе бел. землі разам з Полацкам] // Бел. Мінуўшчына. 1998. № 1. С. 7—10.

**Ермаловіч М.** Старажытная Беларусь: Перыяд Рэчы Паспалітай (1569—1795): [Главы арт.: "Час бескаралеўя", "Працяг і заканчэнне Лівон. вайны"] // Маладосць. 1998. № 1. С. 181—193. Працяг будзе.

**Белы А.** Полацк у нямецкіх "лятучых лістках" XVI ст.: Інфлянцкая [Лівонская] вайна [1558—1583 гг.] на старонках першых еўрапейс. газет // Спадчына. 1997. № 6. С. 213—219.

**Гурын М.** Дзейнасць М. К. Радзівіла Сіроткі ў Мірскім графстве: [Біягр. звесткі пра дзярж. дзеяча ВКЛ канца XVI — пач. XVII стст. і яго ўклад у развіццё эканомікі і культуры г. п. Мір] // Бел. гіст. часоп. 1998. № 1. С. 64—68.

**Грыцкевіч В. П.** Беларускія лекары ў Маскоўскай дзяржаве XVII ст. // Магілёўс. даўніна: [Штогоднік]. 1997. С. 5—8.

**Казлоў Л. Р.** Паўночная вайна [1700—1721 гг.] на Беларусі // Падарожнік. 1998. № 1. С. 19—20; № 2. С. 17—20. Працяг будзе.

**Анішчанка Я. К.** Апошняя люстрацыя [рэвізія] Магілёўскай эканоміі [1767 г.] // Магілёўс. даўніна: [Штогоднік]. 1997. С. 9—11.

**Бензярук А.** Загадка Тадэвуша Касцюшкі [(1746 ці 1745, Івац. ці Жабін. р-н — 1817): Да пытання аб даце і месцы нараджэння паліт. і ваен. дзеяча Рэчы Паспалітай, кіраўніка паўстання 1794 г] // Бел. Мінуўшчына. 1998. № 1. С. 33—36.

**Шпунт А.** "Я Бацькаўшчыны не перажыву...": [Пра ваен. і паліт. дзеяча, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1794 г., паэта Якуба Ясінскага (1761—1794)] Наша Ніва. 1998. 16 сак. (№ 6). С. 8—9.

**Анішчанка Я.** Статут жыцця [Якуба] Ясінскага // Маладосць. 1998. № 2. С. 220—233. (Малавядомыя старонкі гісторыі).

**Апісанне** падарожжа з Мінска ў Пецярбург ананімнага беларускага шляхціца: [Прыведз. тэкст рукапісу дыярыуша падарожжа 1797 г., дзе даецца агул. уяўленне пра стан бел. гарадоў і мястэчак, пра жыццё людзей у канцы XVIII ст.] / Падрыхт. да друку і прадм. Б. Рока; Пер. с пол. Ю. Казакова // Бел. гіст. часоп. 1998. № 1. С. 55—63.

**Жытко А. П.** Да пытання аб "разборы" шляхты на Беларусі ў XIX ст.: [Разглядаецца палітыка царызму ў адносінах да шляхты Беларусі, яе юрыд. і сац.-экан. статусы, а таксама пытанні веравызнал. і нац. паходжання гэтай саслоўн. групы] // Весці Бел. дзярж. пед. ун-та. 1998. № 1. С. 70—77.

**Данилов А.** Гроза двенадцатого года: [О событиях в годы Отеч. войны 1812 г. на территории Беларуси] // Армия. 1998. № 2. С. 42—51. Окончание. Нач. в № 3—6 за 1997 г.

**Блінец А.** Беларускія татары ў гвардыі Напалеона [у 1812 г.] // Спадчына. 1997. № 6. С. 123—127.

**Сосна У. А.** Перавод манастырскіх сялян у склад дзяржаўных на Беларусі ў 30-х гг. XIX ст.: [Курс царызму на ліквідацыю каталіц. царквы як буйнога феадала-ўласніка] // Весн. БДУ. Сер. 3. Гісторыя. Філасофія. Паліталогія. Сацыялогія. Эканоміка. Права. 1998. № 1. С. 11—14.

**Панюціч В. П.** Прававое становішча сялянства парэформеннай эпохі [1861 г. — пач. XX ст.] // Весці Нац. акад. навук Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1998. № 1. С. 58—65.

**Мяснікоў А.** Таямніца доміка над Свіслаччу: Сто гадоў таму [у 1898 г.] у Мінску прайшоў першы з'езд РСДРП // Звязда. 1998. 13 сак.

**Рудовіч С.** Быў гатовы дапамагаць...: Першы з'езд РСДРП і ўтварэнне БНР як вехі жыцця аднаго масона: [Пра лёс рэвалюцыянера, адваката, аднаго з дэлегатаў І з'езда РСДРП, супрацоўніка Юрыд. каміс. Рады БНР, члена Мін. масон. ложы з 1910 г. Казіміра Адамавіча Петрусевіча (1872, Капыл. р-н — 1949)] // ЛіМ. 1998. 20 сак. (№ 12). С. 13.

---

(Працяг будзе).



БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ПОЛЬШЧА







# ВЫСТАВА КАРЦІН ІГАРА КАБЗАРА

У Беларускім музеі ў Гайнаўцы адкрыта выстава алейных карцін мастака Ігара Кабзара з Бельска-Падляшскага. Жывапісец прывёз іх трыццаць дзве. У большасці на палотнах красуюцца напісаныя алеем гарадскія бельска-падляшскія пейзажы, а таксама нацюрморты. Тым, хто мае магчымасць, варта агледзець.

**Тэкст і фота Янкі ЦЭЛУШЭЦКАГА.**

*P. S. Шчыра дзякую за штотыднёвік "Голас Радзімы". Атрымліваю яго ўжо другі год. Вельмі цікавы.*

**Я. Ц.**

*Гайнаўка, снежань 1998 года.*



ЛАТВІЯ — ІЗРАІЛЬ: ДЫЯЛОГ ПРАЗ МЕЖЫ

# НОШУ НЕСЦІ НА ПЛЯЧАХ

*Доктар філалагічных навук, прафесар Леанід Цылевіч шмат гадоў працаваў на кафедры рускай літаратуры ў Даўгаўпілскім педагагічным універсітэце, рэдагаваў паэтычныя зборнікі даўгаўпілскіх аўтараў "Дні паэзіі". Зараз жыве ў Ізраілі. Прапануем увазе чытачоў "Голасу Радзімы" яго рэцэнзію на зборнік вершаў беларуса з Латвіі Станіслава Валодзькі "У вачах Айчыны".*

ШТО ТАКОЕ "ноша на плячах"? Цяжар, несвабода; калі ноша падае з плеч, становіцца лёгка. Такі традыцыйны сэнс вобраза, з ім спрачаецца Станіслаў Валодзька:

**Ноша ўпала з плячэй,**
**Ды не стала лягчэй:**
**Лёг цяжар на душу —**
**Каб хоць слёзы з вачэй.**
**І не раз мне яшчэ**
**Сэрца жаль апячэ,**
**Што не змог утрымаць**
**Ношу — упала з плячэй...**

Лірычны герой паэта добраахвотна бярэ на свае плечы ношу — груз маральнага доўгу перад людзьмі: памяці аб мінулым і адказнасці за будучыню. Каб выканаць гэты доўг, трэба жыць у поўную меру пачуццяў і дзеянняў — любіць і ненавідзець, пакутаваць і радавацца, змагацца і перамагаць:

**У імя свайго бацькі,**
**У імя свайго сына**
**. . . . . . . . . . . . . . . . . . .**
**Змагацца з няпраўдай,**
**Што імем закона**
**Асуджана,**
**Імем закона**
**Прыроды,**
**Любві да жанчыны,**
**Айчыны,**
**Народа.**

Такая, свая, ноша — па прыказцы — не цягне, вызваленне ад яе не прыносіць палёгкі. Але каб утрымаць яе на сваіх плячах, трэба прыкласці нямала сіл, пераадолець нямала спакус. Галоўнае патрабаванне да чалавека — быць самастойным.

Але імкненне да самастойнасці без кантролю розуму можа ператварыцца ў самавольства асобы, эгаізм. Яно павінна ўключаць у сябе і самаабмежаванне, самавалоданне. Такі сэнс настойліва паўтору закліку: "Вазьмі сябе ў рукі!":

**Нялёгка быць сабой.**
**Цяжэй, чым сам, быць**
**лепшым.**
**Вядзі з сабою бой —**
**У табе твой вораг злейшы!**
**Ён гнеў твой раздзімаць**
**Амаль з нічога ўмее!**
**А ты сябе трымай —**
**Хоць рукі занямелі!**

ПАЭТ ускладвае на свае плечы двайную ношу: і маральны доўг, і паэтычную творчасць. Тым самым ён набывае права заклікаць іншых кіравацца яго прыкладам, звяртаецца да чытача з павучаннем. Прынята лічыць, што лірыцы павучанне супрацьпаказана, яно раздражняе чытача. Але ўся справа ў тым, хто, а галоўнае — як павучае. "Павучанне" ў вершах Валодзькі знаходзіць у чытача жывы водгук, таму што яно не разважнае, а эмацыянальнае, прадыктавана страсным альтруістычным, гуманістычным пачуццём і выказана паэтычна.

Герой Валодзькі патрабавальны да сябе, сурова судзіць сябе за нязначнае адхіленне ад узятага доўгу. Аб гэтым сведчыць той самы верш "Ноша ўпала з плячэй", з якога мы пачалі нашу размову: вызваленне ад ношы — няхай часовае ці выпадковае — прыносіць не палёгку, а пакуту. Скінуць ношу — значыць здрадзіць "самостоянию". Асабліва — у адносінах да самага дарагога чалавека — маці. З горкім гумарам гаворыць паэт аб тым, што рэдка бывае ў родным доме:

**Запыталася хата:**
**— Што так доўга не быў,**
**Што ты маме і тату**
**Пакланіцца забыў?**
**. . . . . . . . . . . . . . . . . . .**
**Запыталася хата:**
**— Што так доўга не быў,**
**Што, ўваходзячы,**
**раптам**
**Гуз на лобе набіў?!**

Матыў "стукацца ў дзверы роднага дома" тут пераарочваецца камічна: стукнуцца лбом аб вяршнік; у другім вершы ён гучыць сумна-сарамяжна:

**Часцей ты стукаўся да маці,**
**Як быў пад сэрцам у яе!**

Трагічнай сілай адзначаны вершы С. Валодзькі аб ахвярах, панесеных яго народам. Паэт будзіць памяць аб рэпрэсіях 1937-га года, аб тых земляках, "хто быў пастаўлены да сцяны,.." аб тых, каго "яма глынула ў Курапатах". Гэтыя словы — з верша "Мар'яна" — аднаго з лепшых у зборніку.

Ён смуткуе аб тых, каго забрала вайна:

**Светлай памяці нябеснай,**
**Светлай памяці зямной,**
**Тых, хто ўжо распраствалў**
**крылы**
**З выпускнога**
**узляцець,**
**Ды вайна рукой накрыла...**

Помніць паэт і аб бедах народных, прычынай якіх была кампанейшчына, "меліярацыя", якая загубіла многія беларускія землі. І сам тэрмін "меліярацыя" набывае злавесны сэнс, "рыфмуючыся" з мілітарызацыяй:

**Жорсткасць, прыволле**
**адчуўшы,**
**Ведаць не хоча граніц:**
**Меліярацыя ў душах**
**Знішчыла столькі крыніц!**

ПАЭЗІЯ Станіслава Валодзькі традыцыйная ў лепшым сэнсе гэтага слова: атрымаўшы ў спадчыну, ён развівае традыцыі класікаў беларускай паэзіі Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, успамінае іх імёны ў сваіх вершах з любоўю і павагай. Валодзька піша проста, але гэта не тая прастата, якая "хуже воровства". Я бы скарыстаў да беларускіх вершаў Валодзькі тое азначэнне — жартоўна-сур'ёзнае, — якое Твардоўскі даў свайму "Васілію Цёркіну": "Вот стихи, а все понятно".

Беларускай паэтычнай мовай Валодзька валодае свабодна, шырока выкарыстоўваючы яго вобразна-выразныя магчымасці. Ён умее так злучыць агульнаўжывальныя выразы, у тым ліку прыказкі і прымаўкі, што ў іх спалучэнні нараджаецца новы сэнс, патрэбны ў мастацкім кантэксце.

Ён умее стварыць новае словазлучэнне па тыпу вядомага:

**Тут жар-птушку шчасця**
**І жах-птушку болю**
**На сваёй гусінай**
**Скуры я адчуў.**

Карціна свету ў вершах Валодзькі стварaецца не толькі словам значным, але і словам жывапісным. Славесная жывапісь:

**Тут дзяўчо Хатыні**
**Услед яму махае**
**Хустачкай пунсовай**
**Вечнага агню, —**

спалучаецца са славеснай гукапіссю:

**Што да парога дарагога**
**Цябе дарога прывядзе.**

Гаворачы аб славеснай інструментоўцы на "др" у вершы Ясеніна, Маякоўскі жартоўна-сур'ёзна заўважыў, што вось гэта самая "др" і робіць паэзію паэзіяй. Валодзька — не Ясенін, але ўплыў ясенінскай вобразнасці і ясенінскіх інтанацый у яго вершах адчувальны:

**Я гляджу ў мірны час**
**малады,**
**Як зачэрпвае месяца каскай**
**З рэчкі вечар засмяглы**
**вады...**

ЯШЧЭ адзін паэт прысутнічае ў кнізе вершаў С. Валодзькі — герой верша "Яніс Райніс і беларусы". Вядома, што вялікі латышскі паэт Райніс у бытнасць яго міністрам адукацыі Латвійскай рэспублікі 20-х гадоў многа зрабіў для развіцця культуры беларусаў, якія жылі ў яго краіне. Але, акрамя гістарычнага сюжэта, у вершы ёсць і падтэкстны лірычны план: аўтар жа — беларускі паэт, які жыве ў Латвіі, у Даўгаўпілсе — горадзе, які быў "малой радзімай" Райніса.

Многа добрага можна было б сказаць і аб іншых, не ўпомненых мной вершах.

Жадаю Станіславу Валодзьку з годнасцю несці ўзятую на свае плечы ношу.

**Леанід ЦЫЛЕВІЧ,**
**прафесар,**
**доктар філалагічных навук.**
Хадэра, Ізраіль.
1998 год.

ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ МАРГАРЫТЫ СТАРЫХ

# АБВАРНАЯ КЕРАМІКА ГАНЧАРА КІРЫЧЫКА

*Магчыма, у хуткім часе сімвалам горада беларускіх шахцёраў Салігорска стануць не толькі капёр і калійная соль, а і абварная кераміка. Бо жыве ў гэтым горадзе ганчар Аляксандр Кірычык, які паставіў перад сабой такую мэту.*



*Дзед Вярэйчык сакрэтаў не хаваў.*

...Неяк турысты з Японіі ў пошуках сувеніраў зазірнулі ў "Славутасць" (гэтая галерэя нацыянальнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва знаходзіцца ў Мінскім культурна-асветніцкім цэнтры па вуліцы Кастрычніцкай, 5) і, убачыўшы кераміку Аляксандра Кірычыка, прыйшлі ў такое захапленне, што адразу ж закупілі ўсё, што было ў наяўнасці. Знаўцы гэтага найстаражытнага рамяства, яны па заслугах ацанілі работы беларускага майстра, бо нічога падобнага ім раней не даводзілася бачыць.

Ды і беларускім знаўцам цудам здаюцца гэтыя дзівосныя ганчарныя вырабы — рабенькія, якія нечым нагадваюць перапёлчыныя яйкі, толькі малюнак буйнейшы і яшчэ больш адвольны. Менавіта ён надае традыцыйным па форме спарышам, гладышам, міскам і іншаму гліняному посуду салігорскага майстра звышпрывабнасць. Таму спакусіліся на яго кераміку і беларускія пасольствы ў Кітаі і ЗША: заказалі наборы на 36 персон. І сапраўды, калі ўжо частаваць і здзіўляць гасцей нацыянальнымі стравамі, то для гэтай мэты нічога лепшага не прыдумаеш. Посуд выглядае прывабна, а прыгатаваная у ім ежа мае пах, як з вясковай печы.

Ёсць і ў мяне дома некалькі вырабаў Кірычыка, паклонніцай якога я ўжо некалькі год з'яўляюся. Варта каму-небудзь з маіх сяброў убачыць гэтыя керамічныя вырабы, як яны ахаюць ад здзіўлення і захаплення. І зараз жа пачынаюць распытваць пра аўтара.

...Асноўныя жыццёвыя вехі ў Аляксандра Кірычыка дзве — "падземная" і "надземная". Спачатку пайшоў ён па слядах бацькоў, звязаў свой лёс з "Беларуськаліем". Старшыя Кірычыкі (бацька — украінец, маці — руская) прыехалі ў Салігорск па камсамольскіх пуцёўках на ўсесаюзную ударную будоўлю ў 1962 годзе. Так што малодшы Кірычык з часам стаў горным майстрам, як і бацька. Але ў выбары гэтым было больш розуму, чым сэрца. Надзея на тое, што сцерпіцца-злюбіцца, з кожным годам усё слабела і слабела. І тут якраз своечасова ўмяшаўся Спадар Вялікі Выпадак: пазнаёміўся Саша з Мікалаем Пратасеням, які вёў студыю керамікі. І стаў гэты мудры чалавек і прафесійны мастак не толькі настаўнікам, але і другім бацькам для яго. Пахадзіўшы нейкі час у яго ў вучнях, Саша так захапіўся, што ўжо без ганчарнага круга жыцця свайго не ўяўляў.

Адыграла сваю ролю ў гэтым і сустрэча з апошнім майстрам па абварной кераміцы. Штогод у канцы мая — пачатку чэрвеня адпраўляліся студыйцы ў этнаграфічныя экспедыцыі ў суседні Клецкі раён па мясцінах, некалі славутых сваім ганчарным промыслам. У вёсках Сіняўка, Масцілавічы, Забалотнікі, Ганевічы старыя яшчэ памяталі шумныя кірмашы, дзе ад "посуду глінянага вочы разбягаліся". У кагосьці ў хаце яшчэ можна было тое-сёе сустрэць з таго ганчарнага харawства, але майстроў саміх ужо не было ў жывых. І толькі ў Ганевічах засталі яны апошняга з іх — Уладзіміра Вярэйку, якому ў той час было 72 гады (ад рамяства свайго ён ужо практычна адышоў). Вось у яго і ўбачыў Саша Кірычык абварную кераміку.

— Чытаць аб ёй — чытаў, — расказвае ён, — а вось на свае вочы пабачыў упершыню. І, канешне ж, уразіла яна мяне сваёй незвычайнасцю: формы архаічныя, ладныя, а афарбоўка... Дзядуля ў жытнёвы адвар, у якім абварваў гатовыя вырабы, яшчэ перапалены і патоўчаны камень дадаваў. Чалавек шчодры, ён сакрэтаў сваіх не хаваў, усё расказаў, паказаў...



*Стракаты цуд Кірычыка.*



*Цяпер у маладога майстра — свае сакрэты.*

Перадаў стары майстра з рук у рукі рамяство сваё заезджаму малайцу і не памыліўся, бо "захварэў" з тае пары Саша на кераміку і адрадзіў ужо амаль згубленае рамяство. З той сустрэчы прайшло шэсць год, і прыйшоў час падвесці вынікі.

— Я ўзяў ад традыцый усё, што можна, — прызнаецца Аляксандр Кірычык. — Але мая абварная кераміка ўжо не такая, як у дзеда Вярэйкі, захацелася, не адмаўляючыся ад традыцый, ствараць новыя формы.

...Цяпер абварную кераміку практычна ніхто і нідзе не робіць, акрамя Кірычыка. За яе адраджэнне малады майстра атрымаў у 1996 годзе дзяржаўную стыпендыю Міністэрства культуры Беларусі. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі закупіў калекцыю яго вырабаў для сваіх фондаў. У падручніках для ВНУ па гісторыі беларускага мастацтва Салігорск фігуруе як месца адраджэння абварной керамікі.

Аб'ездзіў майстра з ёю ўсю Беларусь, быў на Агульнапольскім ганчарным фестывалі. Аказалася, многія ведаюць аб такой кераміцы з літаратуры, але ніколі яе не бачылі. Раскупляюцца вырабы Кірычыка вельмі хутка, і вяртаецца майстра дадому з мноствам заказаў.

З нядаўняга часу Аляксандр Кірычык стаў вырабы свае ўпрыгожваць яшчэ і маленькім гліняным медалём на вішнёвым шнурку. На медалі тым надпіс — "Салігорск, А. К."

*Фота Мікалая ПРАТАСЕНІ.*

«Голас Радзімы»

Рэдакцыйная калегія

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 78.
Падпісана да друку 18. 01. 1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

НАШ АДРАС:
220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 13-31-97,
13-32-80, 13-30-15,
84-76-56, 13-37-82.